Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 21-22 (5352-5353)
Субота, 23 лютага 2002 года
Кошт у розніцу — 240 руб.

## Паважаныя калегі!

Віншую вас з Днём абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, святам, што ўвасабляе ў сабе гераічнае мінулае, пераемнасць традыцый, у падмурку якіх закладзены мужнасць славутых сыноў зямлі беларускай.

З мужчынам заўсёды звязвалася строгасць у выхаванні, разумная патрабавальнасць да сваіх выхаванцаў, звязвалася надзея на падтрымку ў цяжкія хвіліны.

Удзячнай данінай подзвігу і самаадданасці служэння Радзіме стала сённяшняе свята – 23 лютага.

Хачу зазначыць, што вы, уваходзячы ў клас, аўдыторыю, навуковую лабараторыю, выконваеце свой грамадзянскі і прафесійны абавязак.

Выказваю сваю шчырую ўдзячнасць тым руплівцам на педагагічнай ніве, якія звязалі сваё жыццё са школай, вучылішчам, тэхнікумам, універсітэтам...

Дарагія калегі! Моцнага вам здароўя, плёну ў працы, шчаслівага сямейнага ўладкавання!

**З шанаваннем**

**Міністр адукацыі П.БРЫГАДЗІН.**

## І дыплом, і лейтэнанцкія зоркі...

***Без асаблівай нацяжкі можна сцвярджаць пра неардынарнасць, адметнасць любой навучальнай установы - сярэдняй школы, ліцэя, каледжа, ВНУ. А вось Камандна-інжынерны інстытут, які рыхтуе спецыялістаў для органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях, вылучаецца з іх разраду як профілем, так і своеасаблівай, калі не выключнай, запатрабаванасцю іх выхаванцаў, не гучна будзе сказана, народнай гаспадаркай...***

Заўчора Камандна-інжынерны інстытут Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь перажыў падзею, якая заняла пэўнае месца ў гісторыі навучальнай установы – адбыўся чарговы выпуск маладых спецыялістаў, якія і атрымалі дыпломы, і займелі на пагонах лейтэнанцкія зоркі.

Якраз за некалькі гадзін да ўрачыстага моманту пашчасціла пагутарыць з першым намеснікам начальніка інстытута, падпалкоўнікам унутранай службы Аляксандрам Герасімчыкам.

Па-вайсковаму дакладны, лаканічны ў сваіх высновах Аляксандр Пятровіч за непрацяглы час імправізаванага інтэрв'ю змог падзяліцца звесткамі пра навучальную ўстанову.

Па ягоных словах, за дзесяць гадоў існавання тут падрыхтавана і накіравана на практычную работу больш чым 600 выпускнікоў. Шмат з іх займаюць адказныя пасады ў гарадскіх і раённых аддзелах, абласных упраўленнях, навуковых і навучальных установах Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

У сценах інстытута курсанты асвойваюць наступныя спецыяльнасці – "Пажарная тэхніка і бяспека", "Папярэджанне і ліквідацыя надзвычайных сітуацый", "Бяспека людзей, аб'ектаў і тэрыторый у надзвычайных сітуацыях".

Аляксандр Пятровіч нязмушана, хаця і не без гонару, паведаміў, што з ліку 71 выпускніка інжынернага факультэта 8 закончылі з адзнакаю. Сярод іх, падкрэсліў ён, зразумела, і стыпендыят Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў курсант (а сёння ўжо лейтэнант) Аляксандр Зак.

Не без гордасці Аляксандр Пятровіч называе імёны і прозвішчы Вадзіма Быкава, Дзмітрыя Калюціча, Аляксандра Нішта, Дзмітрыя Цітко, Леаніда Трафімчыка, Дзяніса Хомчыка, Сяргея Яшчанкі.

Паступова скіроўваю размову на тое, як інстытут працуе над складам-кантынгентам кандыдатаў – у курсанты.

Аляксандр Герасімчык паведаміў, што кіраўніцтва ўзяло за правіла, рыхтуючы будучых курсантаў, садзейнічаць арганізацыі профільных класаў у шэрагу сярэдніх школ краіны.

Да прыкладу, інстытут ужо колькі гадоў супрацоўнічае з гімназіяй № 19 з Оршы, сярэдняй школай №143 сталіцы.

Акрамя пільнай увагі за ўзроўнем падрыхтоўкі па фізіка-матэматычных дысцыплінах, літаратуры і мове, стала звычайным запрашэнне будучых кандыдатаў у курсанты на шэраг інстытуцкіх мерапрыемстваў, скажам, на сумесныя спартыўныя спаборніцтвы.

А фізічнай падрыхтоўцы ў навучальнай установе аддаецца вунь якая ўвага! На гэты конт Аляксандр Пятровіч заначыў, што неаспрэчна станоўчыя вынікі ў тэарэтычнай, спецыяльнай і практычнай падрыхтоўцы шмат у чым вынікаюць менавіта з фізічнай. Сярод сёлетніх выпускнікоў – 5 майстроў спорту, 3 кандыдаты ў майстры спорту, пераможцы і прызёры міжнародных і рэспубліканскіх спаборніцтваў. А ў дадатак падаў такую інфармацыю: 97% выпускнікоў установы маюць першы спартыўны разрад па пажарным спорце.

На карысць, скажам, аптымальнага, паспяховага фарміравання кантынгенту курсанцкага саставу сведчыць і правядзенне так званых Дзён адкрытых дзвярэй – у інстытут запрашаюць старшакласнікаў, іх бацькоў. Кандыдаты ў курсанты маюць магчымасць акунуцца ў тутэйшую атмасферу, наведаць шматлікія кабінеты, лабараторыі, у непасрэднай размове з курсантамі атрымаць інфармацыю з першых рук.

Неўпрыкметку зайшла размова пра матэрыяльна-тэхнічную базу. Звычайна ў такім выпадку прадбачацца калі не нараканні, дык пэўныя пажаданні ў неабходнасці яе ўдасканалення. Аляксандр Пятровіч не быў на гэты конт выключэннем, аднак мусіў адзначыць, што матэрыяльна-тэхнічная ўсё ж адпавядае патрабаванням вучэбна-выхаваўчага працэсу, узроўню спецыфікі ВНУ. Нават прагучала інфармацыя пра тое, што інстытут за апошні час займеў 5 новых лабараторый, якія зрабілі б гонар БДПА, шэрагу сталічных універсітэтаў. Мяркую, Аляксандр Пятровіч даў зразумець, што Камандна-інжынерны інстытут Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь заняў пэўную нішу сярод ВНУ краіны.

Як і трэба было чакаць, ён параіў зайсці на кафедру "Арганізацыя дзейнасці органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях". Адразу, без усялякіх уступаў, пашчасціла на размову з камунікабельным і кантактным Вікенціем Трапашкам. Да нядаўняга часу Вікенцій Фёдаравіч узначальваў кафедру. Цяпер яго месца заняў маладзейшы калега. Аднак палкоўнік унутранай службы Вікенцій Фёдаравіч Трапашка жыве справамі кафедры ў якасці старшага выкладчыка, шчодра дзеліцца сваім багатым практычным вопытам з калегамі (адслужыў у сістэме больш за 35 гадоў) і па-ранейшаму навучае курсанцкую моладзь.

Менавіта названая кафедра мае пэўнае дачыненне да таго, каб выпускнікі інстытута былі ў пэўнай ступені, як кажуць, "абцяжараны" ведамі па эканоміцы, праве, псіхалогіі і педагогіцы, асновах кіравання, былі дастаткова кампетэнтнымі ў сферы дзяржаўнай надзорнай дзейнасці.

Вікенцій Фёдаравіч добразычліва выказаўся пра старшага выкладчыка, капітана ўнутранай службы Мікалая Архіпца (чытае курс па эканоміцы), як і пра правазнаўцу, старшага выкладчыка, падпалкоўніка Аляксандра Саламеннікава.

Якраз падчас размовы зайшла абаяльная жанчына ў маёрскіх пагонах.

– Валянціна Іванаўна Скрыпко, – прадставіў Вікенцій Фёдаравіч, – старшы выкладчык кафедры. Вопытны інжынер-эканаміст, да ўсяго ж яшчэ і педагог.

Інтуітыўна ўлавіўшы сутнасць папярэдняй гаворкі, Валянціна Іванаўна ўзяла тэму найперш інтэлектуальнага ўзроўню выпускніка (дасведчанасць у пытаннях эканомікі, права, агульнай культуры і г.д.) як умову запатрабаванасці выпускнікоў КІІ ў адпаведных установах і ведамствах.

Напрыклад, выявілася, што спецыялісты, падрыхтаваныя інстытутам, карыстаюцца попытам у Міністэрстве абароны.

...Чарговы выпуск маладых спецыялістаў. Прачулыя словы, кветкі, жывая музыка. Начальнік Камандна-інжынернага інстытута, прафесар, палкоўнік унутранай службы Уладзімір Вераб'ёў, які адкрыў урачыстасць, цёпла, сардэчна павіншаваў сваіх выхаванцаў з атрыманнем дыпломаў ВНУ і афіцэрскіх званняў.

Пранікнёнымі, поўнымі надзеяй на паспяховую службу былі словы звароту Міністра па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь генерала-лейтэнанта ўнутранай службы Валерыя Астапава.

І яны набылі асаблівы сэнс, бо прагучалі ў пярэдадзень Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Удзел ва ўрачыстым мерапрыемстве прынялі намеснік Дзяржаўнага сакратара Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Удовікаў, старшыня Камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Барыс Бікінін, начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Валерый Дабранскі, намеснік старшыні Мінгарвыканкама Міхаіл Пятрушын і іншыя прадстаўнікі органаў улады, ветэраны органаў унутраных спраў і пажарнай службы.

**Уладзімір НОВІК.**

НА ЗДЫМКАХ: будні і святы Камандна-інжынернага інстытута.

Падзея

## Ім пажадалі Нобелеўскай прэміі

***Падведзены вынікі акцыі "Светлая галава", арганізаванай Міністэрствам адукацыі краіны, газетай "Комсомольская правда" і Банкам рэканструкцыі і развіцця. У Нацыянальным прэс-цэнтры ў сераду было ўганараванне пераможцаў.***

Да ўдзелу ў конкурсе былі запрошаны студэнты ўсіх ВНУ краіны. Галоўнай умовай была навуковая праца – арыгінальнае навуковае даследаванне ці адкрыццё, патэнт на вынаходніцтва, паспяховы ўдзел у міжнародных конкурсах, алімпіядах, даследчых праектах і да т.п.

Журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя вучоныя краіны, а таксама прадстаўнікі РРБ-Банка, "Комсомольской правды" і Міністэрства адукацыі, разгледзела 114 заявак. Кола тэм навуковых работ было надзвычай шырокім – ад новых метадаў лячэння захворванняў да вечнага рухавіка.

У выніку пяць уладальнікаў самых "светлых галоў" атрымалі гадавыя стыпендыі ад РРБ-Банка. Першая прэмія (100 тысяч рублёў у месяц) прысуджана студэнту Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Вячаславу Чыркову, які мае ўжо каля 20 навуковых публікацый, патэнт на вынаходніцтва, акрамя таго, браў удзел у многіх міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях, узначальвае студэнцкае навуковае таварыства. Другая прэмія (80 тысяч рублёў у месяц) прысуджана Андрэю Барашко, студэнту факультэта міжнародных адносін БДУ, трэцяя (60 тысяч рублёў у месяц) – Андрэю Ільюценка, студэнту факультэта радыёфізікі і электронікі БДУ. Чацвёртую і пятую прэміі (50 тысяч рублёў у месяц) атрымалі студэнтка Беларускага інстытута правазнаўства Ірына Кастамарава і студэнт Мазырскага педагагічнага інстытута Руслан Хільмановіч.

Трое ўдзельнікаў акцыі рэкамендаваны да залічэння ў аспірантуру, а студэнт Беларускай акадэміі музыкі Васіль Нятук і студэнтка Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта Ганна Луд атрымалі разавыя прэміі.

Спецыяльны прыз – камп'ютэр ад "БелКП-ПРЕСС" – атрымаў Аляксандр Усніч, студэнт факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ. Яшчэ будучы школьнікам, Аляксандр стаў пераможцам Міжнароднай алімпіяды па інфарматыцы ў Карэі. У мінулым годзе ён таксама бы пераможцам Міжнароднай алімпіяды па матэматыцы і інфармацыйных тэхналогіях. І цяпер, на ўручэнне прэміі, у Нацыянальны прэс-цэнтр прыехала мама Аляксандра Усніча, бо сам юнак у гэты час знаходзіўся на навуковай канферэнцыі ў Маскве.

Намеснік Міністра адукацыі Аляксандр Жук у сваіх віншаваннях пераможцаў нагадаў, што нобелеўскі лаўрэат Жарэс Алфёраў таксама пачынаў свой шлях у навуку на Беларусі, і адзначыў, што якраз на "светлыя галовы" – усе нашыя надзеі.

**Галіна ГЕНАДЗЬЕВА.**

Весткі

## Праграма МВА - ужо ў Беларусі

***У сучасных умовах для вышэйшай школы Беларусі актуальнай з'яўляецца задача вучыць студэнтаў міжнароднаму бізнесу, а менавіта: прыбытковаму вядзенню гаспадаркі ва ўмовах глабалізацыі сусветнай эканомікі і пераходу нацыянальнай эканомікі да сістэмы рыначнага тыпу. Сучасная практыка эканамічнага жыцця патрабуе новага светапогляду, новых ведаў, іншай кваліфікацыі і паводзін на рынку спецыялістаў малога і сярэдняга бізнесу.***

Добра збалансаваная сістэма адукацыі павінна ахопліваць аналіз і набыццё ведаў, акрамя таго, уключаць практыкаванні па развіццю творчых навыкаў, уменняў браць на сябе адказнасць за вырашэнне пастаўленых задач і паспяхова спраўляцца са штодзённымі сітуацыямі, а таксама рабіць усё гэта ў супрацоўніцтве з іншымі людзьмі. Найбольшай папулярнасцю ў свеце карыстаецца амерыканская сістэма бізнес-адукацыі. Яе стрыжнем з'яўляюцца бізнес-школы, галоўным дасягненнем якіх было стварэнне і шырокае распаўсюджанне праграм падрыхтоўкі магістраў дзелавога адміністравання МВА (Master of Business Administration).

Значны вопыт функцыянавання МВА-праграм у апошняе дзесяцігоддзе назапашаны і еўрапейскай вышэйшай школай. Прыемна адзначыць, што сістэма адукацыі Беларусі таксама інтэгруецца ў гэты сусветны працэс.

У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце рыхтуюць магістраў з 1994 года: напачатку сумесна з Банкаўскай акадэміяй фінансаў Франкфурта (Германія), а з мінулага года ў Вышэйшай школе кіравання і бізнесу пачата падрыхтоўка магістраў у галіне дзелавога адміністравання ў рамках праекта ТАСІС Еўрапейскага Саюза Праграмы развіцця грамадзянскай супольнасці. Асноўным партнёрам БДЭУ стаў Турынскі ўніверсітэт (Італія).

На мінулым тыдні ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце пры ўдзеле прадстаўнікоў пасольстваў, міністэрстваў і дзелавых колаў рэспублікі прайшла канферэнцыя "Праграма МВА ў Беларусі". Ад свайго імя, а таксама ад імя Еўрапейскага Саюза і пасла Вялікабрытаніі ў Беларусі спадара Яна Келі да ўсіх прысутных звярнуўся з прывітальным словам пасол Італьянскай рэспублікі ў Беларусі спадар Стэфана Бенаца. Ён адзначыў важнасць міжнародных акадэмічных праграм у ВНУ рэспублікі, а таксама прыкметнае жаданне рухацца ў напрамку дэмакратычнага грамадства і развіцця эканомікі.

Прыярытэтам Еўрапейскага Саюза, на думку кіраўніка ТАСІС-офіса прадстаўніцтва еўрапейскай камісіі ў Беларусі спадара Рауля дэ Люзенбергера, былі і застаюцца сувязі з універсітэтамі Беларусі. Толькі за перыяд з 1996 па 1999 гады на развіццё адукацыйных праграм і навуковыя даследаванні рэспубліцы было выдзелена каля 25 млн. еўра, за апошнія два гады гэтая сума павялічылася да 40 млн. еўра. У стадыі абмеркавання знаходзіцца пытанне аб прадаўжэнні тэрміну дзеяння праграмы ТАСІС, што сведчыць пра пэўную цікавасць да нашай рэспублікі з боку еўрапейскай супольнасці.

Рабочую частку канферэнцыі прадоўжыў прафесар Джузэпэ Дуто (школа бізнесу Турынскага ўніверсітэта), каардынатар па акадэмічных пытаннях праекта ТАСІС МВА. Удзельнікі форуму расказалі пра еўрапейскі і расійскі падыходы да праграм МВА, падзяліліся вопытам у галіне падрыхтоўкі магістраў дзелавога адміністравання. Увесь шырокі спектр праграм і курсаў, ад фундаментальных двухгадовых да кароткатэрміновых прагматычных, якія прапануюцца лепшымі бізнес-школамі, мае ўстойлівы попыт у спажыўцоў, актыўна выкарыстоўваецца для падрыхтоўкі работнікаў малога і сярэдняга бізнесу.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА.**

## Праблемы вынаходніцтва ў ПТВ абмеркавалі на семінары

***13-14 лютага на базе полацкіх і навапалацкіх ПТВ, Ветрынскага ПТВ прайшоў абласны семінар-практыкум "Практычная дзейнасць інжынерна-педагагічных калектываў па актыўнаму прыцягненню навучэнцаў да тэхнічнай творчасці, рацыяналізатарскай і вынаходніцкай дзейнасці".***

У рабоце семінара прынялі ўдзел намеснікі дырэктараў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў вобласці, якія курыруюць пытанні тэхнічнай творчасці навучэнцаў. Узначальваў яго намеснік абласнога ўпраўлення адукацыі і па справах моладзі С.Каваленка. У сваім выступленні ён прааналізаваў працу вучылішчаў Полацкага рэгіёна і адзначыў станоўчыя вынікі і вялікі вопыт дзейнасці ў сферы развіцця тэхнічнай творчасці навучэнцаў Наваполацкага ПТВ №28. Дырэктар абласнога Дома тэхнічнай творчасці навучэнцаў Г.Сутула акрэсліў задачы педагагічных калектываў па далейшаму прыцягненню моладзі да тэхнічнай творчасці і выказаў упэўненасць, што для саміх падлеткаў праца ў гэтым кірунку будзе мець не толькі адукацыйнае, але і практычнае значэнне. На базе ўсіх ПТВ прайшлі секцыі адпаведна профілю навучальнай установы. У ПТВ №28 былі арганізаваны выстаўкі тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнцаў. Удзельнікі семінара атрымалі магчымасць наведаць прадпрыемствы нафтаперапрацоўчага комплексу, для якіх, у першую чаргу, рыхтуе спецыялістаў Наваполацкае ПТВ №28.

## Школа-доўгажыхар

***105-годдзе адзначыла Астроўшчынская школа, што на Полаччыне. Сваю гісторыю яна пачала ў канцы 19 стагоддзя, калі дачка мясцовага святара Багаслаўскага пачала вучыць сялянскіх дзяцей з навакольных вёсак.***

Да 1917 года школа была царкоўна-прыходскай. Сямігодкай яна стала ў 1930 годзе, з 1956 года набыла статус сярэдняй. На 2001 год прыйшоўся 45-ы выпуск – усяго каля 1300 вучняў пакінулі сцены школы, атрымаўшы сярэднюю адукацыю. На сённяшні дзень у ёй навучаецца больш за сотню дзяцей, амаль усе педагогі маюць вышэйшую адукацыю. Традыцыі, закладзеныя яшчэ ў канцы 19 стагоддзя, маюць працяг і сёння. Павага і адданасць сваёй справе – вызначальная рыса калектыву, які працуе ў Астроўшчынскай школе.

**Вольга МІНЯНКОВА.**

### *Часть В*

***Ответы заданий части В запишите на бланке ответов рядом с номером задания (В1-В7), начиная с первой клетки. Каждую букву слова пишите в отдельной клетке по приведённым образцам. При раздельном написании делается пропуск одной клетки, при дефисном — черточка в отдельной клетке между частями слова.***

**В1. В предложении допущена орфографическая ошибка. Выпишите слово с орфографической ошибкой, исправив его написание.**

Во флигеле, в жарко натопленной плюшевой гостинной, Иван поставил на стол аршинную елку в глиняном горшке и как раз подвязывал к ее крестообразной макушке свечу, когда Слепцов, озябший, заплаканный, пришел из большого дома, неся темный ящик под мышкой.

**В2. В предложении допущена орфографическая ошибка. Выпишите слово с орфографической ошибкой, исправив его написание.**

При виде флигеля с крашенной зеленой краской крышей, освещенной закатным лучом, он тот час пустил коня вскачь, и вскоре уже стучался в одну из приотворенных ставен.

**В3. Определите стиль приведенного ниже текста.**

*Русский язык широко используется за пределами России. Прежде всего, он представляет собой достаточно удобное средство для межнационального общения жителей бывшего Советского Союза, например молдаван и украинцев, грузин и армян, узбеков и таджиков. Кроме того, к его помощи нередко прибегают представители разных народов и за пределами СНГ. Языки, используемые как средство международного общения, принято именовать мировыми языками. Таким образом, русский язык является одним из мировых языков.*

**В4. Подберите синоним (одно слово) к слову *прибегать (к помощи)* из текста в задании В3 и впишите его в соответствующую область ответов в неопределенной форме.**

**В5. Укажите, как называется троп, основанный на сопоставлении одного предмета или явления с другим.**

**В6. Образуйте от указанных существительных форму именительного падежа множественного числа и выпишите только то, которое в литературном языке имеет окончание -а.**

Клапан, лектор, доктор.

**В7. Выпишите из списка слово женского рода.**

Пони, алиби, КПСС.

## Список учреждений образования, в которых проводится централизованное тестирование в 2002 году

**Белорусская государственная политехническая академия,**
**Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники,**
**Белорусский государственный аграрный технический университет,**
**Брестский государственный университет им. А.С.Пушкина,**
**Брестский государственный технический университет,**
**Витебский государственный технологический университет,**
**Полоцкий государственный университет,**
**Гомельский государственный технический университет им. П.О.Сухого,**
**Гродненский государственный университет им. Я.Купалы,**
**Могилевский государственный технический университет,**
**Белорусская государственная сельскохозяйственная академия,**
**Средняя школа №1 г. Несвижа.**

## Уважаемые читатели!

Тестовые задания по белорусскому языку, математике, химии — читайте в одном из номеров "Настаўніцкай газеты" в марте.

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Цэнтралізаванае тэсціраванне: зборнік матэрыялаў





**А26. Ударение неправильно поставлено в слове**

1) кухонный
2) свекла
3) дремота
4) ждала
5) включит

**А27. Нормы сочетаемости слов нарушены в словосочетании**

1) одержать успехи
2) поставить пьесу
3) дать отпор для врага
4) совершить нападение
5) лить много слов

**А28. Лексическое значение слова указано неверно в примере**

1) Фиаско — ария, исполняемая в конце оперы.
2) Фолиант — толстая книга большого формата.
3) Скрупулезный — предельно тщательный, точный до мелочей.
4) Третировать — обращаться с кем-то свысока, пренебрежительно.
5) Авангард — часть войск, находящаяся позади главных сил.

**А29. Слово употреблено в несвойственном ему значении в предложении**

1) Когда у героя неожиданно расстегнулись краги на жилете, в зале раздался смех.
2) Для документов необходимо фотографировать анфас.
3) Незнание иностранных языков было его ахиллесовой пятой.
4) В гостиной нас ожидала дама в кринолине.
5) Целых два месяца проходил в нашем городе вернисаж художников-передвижников.

**А30. Речевые ошибки допущены в предложении**

1) Среди генералов царило воинствующее настроение по отношению к противнику.
2) У Толстого каждый персонаж имеет свои индивидуальные черты.
3) Золотой век подарил нам плеяду выдающихся писателей.
4) Наставнику важно предостеречь первый шаг своего воспитанника.

**А31. Речевые ошибки допущены в предложении**

1) На подмосток вышел мужчина с букетом цветов в скромном костюме.
2) Неотложная помощь была оказана семистам тридцати пациентам областной больницы.
3) Большой театр отправил его на пенсию, на которой он больше не танцевал.
4) Ему было не совсем удобно докладывать всего того, что говорили подчиненные.

**А32. В приведенном ниже предложении допущена следующая ошибка:**

1) орфографическая
2) пунктуационная
3) речевая
**или**
4) ошибок нет

Он казался сосредоточенным и угрюмым, но когда стиснутые губы расползались в счастливой улыбке, приоткрывалась неведомая бездна затаенного темперамента и даже страсти, однако в глазах при этом не исчезала тоска.

**А33.В приведенном ниже предложении допущена следующая ошибка:**

1) орфографическая
2) пунктуационная
3) речевая
**или**
4) ошибок нет

Этот внешне неприметный человек оказался совершенно необычным, ни на кого не похожим, когда мы разговорились под перестук колес и он поведал мне полную невероятных приключений автобиографию своей жизни.

### *Часть В*

***Ответы заданий части В запишите на бланке ответов рядом с номером задания (В1 - В7), начиная с первой клетки. Каждую букву слова пишите в отдельной клетке по приведенным образцам. При раздельном написании делается пропуск одной клетки, при дефисном — черточка в отдельной клетке между частями слова.***

**В1. В предложении допущена орфографическая ошибка. Выпишите слово с орфографической ошибкой, исправив его написание.**

Он смотрел на комнаты, на портреты, на мебель, и на весело глядевшую в комнаты зелень сада; видел везде чистоту, чопорность, порядок; слушал, как во всех комнатах попеременно пробили с пол дюжины стенных бронзовых и малахитовых часов.

**В2. В предложении допущена орфографическая ошибка. Выпишите слово с орфографической ошибкой, исправив его написание.**

Из утешительных слов тети явствовало, что все это несметное множество людей, изъятых из жизни и осужденных на прозябание в тюрьмах и лагерях, что все они в чем-то виноваты, и только с мамой произошла роковая ошибка, которая вот-вот раскроется.



**А23.Электромагнитный ускоритель представляет собой два провода, расположенные в горизонтальной плоскости на расстоянии 20 см друг от друга, по которым может скользить без трения металлическая перемычка ас массы 2 кг. Магнитное поле с индукцией В = 1Тл перпендикулярно плоскости движения перемычки. Какой ток следует пропустить по перемычке, чтобы она, пройдя путь 2 м, приобрела скорость10 м/с?**




1) 10 А
2) 50 А
3) 100 А
4) 250 А
5) 300 А

**А24. Частица массы *m* и заряда *q* движется по окружности в однородном магнитном поле с индукцией В в плоскости, перпендикулярной линиям индукции. Если радиус окружности R, то кинетическая энергия частицы равна**

| 1) | 2) | 3) | 4) | 5) |
|---|---|---|---|---|
| $\frac{q^2B^2R^2}{2m}$ | $\frac{q\ B\ R}{2m}$ | $\frac{q^2B^2R}{2m}$ | $\frac{q^2B^2R^2}{m^2}$ | $\frac{m^2B^2R}{q}$ |

**А25. Прямолинейный проводник длиной 10 см перемещают в однородном магнитном поле с индукцией 0,1 Тл. Проводник, вектор его скорости и вектор индукции поля взаимно перпендикулярны. С каким ускорением нужно перемещать проводник, чтобы разность потенциалов на его концах U возрастала, как показано на рисунке?**




1) 10 м/с$^2$
2) 15 м/с$^2$
3) 20 м/с$^2$
4) 25 м/с$^2$
5) 30 м/с$^2$

**А26.Материальная точка совершает синусоидальные колебания с амплитудой 8 см и начальной фазой 1/3 π. При частоте колебаний 0,25 Гц, через одну секунду после начала колебаний смещение точки от положения равновесия будет равно**

1) 2 см
2) 4 см
3) 6 см
4) 7см
5) 8 см

**А27.От груза, висящего на пружине, жесткость которой равна 50 Н/м, отрывается масса в 50 г. После этого оставшаяся часть груза будет совершать колебания с амплитудой, равной**

1) 1 см
2) 2 см
3) 3 см
4) 4 см
5) 5 см

**А28.Эхо, вызванное ружейным выстрелом, дошло до стрелка через 4 с после выстрела. На каком расстоянии от стрелка произошло отражение звуковой волны, если скорость звука в воздухе равна 330 м/с ?**

1) 330 м
2) 660 м
3) 990 м
4) 1320 м
5) 1660 м

**А29.Колебательный контур радиоприемника содержит конденсатор емкости $10^{-9}$ Ф. Чтобы обеспечить прием радиоволн длиной 300 м, индуктивность катушки контура должна быть равной**

1) 6,2 мкГн
2) 25,4 мкГн
3) 6,2 мГн
4) 25,4 мГн
5) 6 Гн

**А30. Высота Солнца над горизонтом составляет 50°. Каким должен быть угол падения лучей на плоское зеркало, чтобы отразившиеся от него солнечные лучи пошли вертикально вверх ?**

1) 54°
2) 42°
3) 38°
4) 25°
5) 20°

**А31. Укажите номер рисунка, на котором правильно изображен ход светового луча от источника S после прохождения собирающей линзы:**




**А32.При какой скорости, сравнимой со скоростью света в вакууме *c*, энергия частицы больше ее энергии покоя в два раза?**

| 1) | 2) | 3) | 4) | 5) |
|---|---|---|---|---|
| $v = \frac{c}{2}$ | $v = \frac{c}{4}$ | $v = \frac{3}{4}c$ | $v = \frac{\sqrt{3}}{2}c$ | $v = \frac{c}{\sqrt{2}}$ |

**А33.Если наибольшая длина волны излучения, способного вызвать фотоэффект у платины, равна 0,234 мкм, то при облучении платины излучением с частотой 1,5 $\cdot 10^{15}$ Гц наибольшая кинетическая энергия вырываемых электронов будет равна**

1) 8,16 $\cdot 10^{-19}$ Дж
2) 5,24 $\cdot 10^{-19}$ Дж
3) 3,64 $\cdot 10^{-19}$ Дж
4) 2,18 $\cdot 10^{-19}$ Дж
5) 1,44 $\cdot 10^{-19}$ Дж

**А34.Какое из перечисленных ниже оптических явлений обусловлено поперечностью световых волн?**

1) интерференция света
2) дифракция света
3) поляризация света
4) дисперсия света
5) фотоэффект

# Яе вялікасць працэнтаманія...

*Я – настаўнік-пенсіянер, інвалід Вялікай Айчыннай вайны, каля сарака гадоў адпрацаваў на ніве народнай асветы, апошнія дваццаць сем гадоў выкладаў беларускую мову і літаратуру ў сельскай Баршчоўскай сярэдняй школе. У 1938 годзе скончыў Гомельскі настаўніцкі інстытут і быў накіраваны на працу ў Тураўскі раён.*

*Тады я быў малады, меў вялікае жаданне працаваць з дзецьмі, быў узброены рацыянальнымі прыёмамі навучання і выхавання. Мяне вучылі быць сумленным перад сабой і выхаванцамі, патрабавальным і справядлівым.*

*Так я і рабіў.*

*Але пасля першага паўгоддзя навучальнага года ў школу завітаў інспектар райана, які паглядзеў школьны журнал і абурыўся, што ў мяне, маладога спецыяліста, няма поўнай паспяховасці, шмат двоек. Ён не хацеў слухаць мае разважанні, а безапеляцыйна заявіў: "Няма дрэнных вучняў, ёсць дрэнныя настаўнікі. Паставіў двойку вучню – гэта двойка настаўніку, яго педагагічнай прафесійнай слабасці".*

*Пазней вось такія меркаванні я чуў кожны дзень ад сваіх вышэйстаячых начальнікаў.*

*Я быў настаўнікам патрабавальным, ставіў вучням заслужаныя адзнакі, не мог адступіць ад сваіх прынцыпаў. Таму я ніколі не быў у ліку перадавікоў. Цяпер я дваццаць пяць гадоў знаходжуся на заслужаным адпачынку.*

*Старэчы ўзрост (82 гады) не перашкаджае мне сачыць за падзеямі жыцця, работай школы, заўважаць яе поспехі і недахопы. Я часта бываю ў школе, сустракаюся з калегамі па рабоце, з вучнёўскім калектывам.*

*Я разумею, што школа ўваходзіць у лёс кожнага чалавека, пакідае след на ўсё жыццё, садзейнічае інтэлектуальнаму развіццю, маральнаму ўдасканаленню.*

*Таму ніхто не павінен быць абыякавым да яе работы. У кожнага з нас ёсць дзеці, унукі, праўнукі. Яны праходзяць школьны перыяд, набываюць патрэбныя веды, становяцца працаўнікамі і патрыётамі нашай Радзімы.*

*Я ўспамінаю сваіх калег, з якімі працаваў у Баршчоўскай сярэдняй школе. Асабліва запомніўся мне педагог Абрам Рыгоравіч Ганц. Яшчэ да вайны ён скончыў з адзнакай матэматычны факультэт вышэйшай установы, паступіў у аспірантуру, але вайна перашкодзіла збыцца многім яго марам. Удзельнічаў у баях, пасля перамогі вярнуўся да мірнай працы – працаваў у нашай школе, выкладаў матэматыку. Яго методыка адрознівалася ад агульнапрынятай, што не падабалася начальству, затое яна добра ўспрымалася вучнямі, садзейнічала высокай паспяховасці. Вучні атрымлівалі цвёрдыя веды і лёгка паступалі ў сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы. І цяпер пры сустрэчы былыя выпускнікі школы з удзячнасцю ўспамінаюць таленавітага педагога.*

*Ён быў патрабавальны і строгі, ставіў заслужаныя адзнакі, таму не быў перадавіком.*

*У школе працавалі і настаўнікі, якія абыякава адносіліся да сваёй працы, не даражылі сваім гонарам, не ставілі дрэнных адзнак. Таму іх работу адзначалі, ставілі ў прыклад.*

*Тады ўсе на словах асуджалі працэнтаманію, патрабавалі, каб педагогі былі справядлівымі ў ацэнцы ведаў вучняў.*

*Але практыка жыцця разыходзілася з тэарэтычнымі ўстаноўкамі. Усюды панавала працэнтаманія. Работа настаўніка ацэньвалася наяўнасцю ці адсутнасцю двоек. Мы ведалі, да чаго гэта прыводзіла: дзеці, настроеныя на спажывецкі лад, не вучылі ўрокі.*

*На днях я сустрэў маладога настаўніка, які нядаўна скончыў Гомельскі універсітэт. Ён былы вучань нашай школы.*

*Я спытаў, як працуецца, якія поспехі ў працы, недахопы. Ён сказаў, што выкладае матэматыку ў адной са школ Гомеля, працуе другі год, а скончыцца гарантыйны тэрмін (два гады) і пакіне школу. Я здзівіўся і папрасіў назваць прычыну такога рашэння.*

*Малады калега мне сказаў, што работа настаўніка, па-першае, вельмі цяжкая, а зарплата мізэрная, па-другое, у школе пануе працэнтаманія. Дзеці не жадаюць вучыцца, а ім трэба ставіць станоўчыя адзнакі, у той жа час розныя ўплывовыя асобы ціснуць на дырэктара і настаўнікаў, каб нашчадкам гэтых асоб ставілі выдатныя адзнакі, якія потым забяспечылі б ім залаты медаль.*

*Такім чынам, паўтараецца тое, што было ў час маёй работы. Няўжо і цяпер не разумеюць таварышы, якія кіруюць органамі народнай асветы, што гэта – заганная практыка, язва педпрацэсу, яна не садзейнічае павышэнню паспяховасці, выхоўвае спажывецкі настрой, адмоўныя адносіны да працы, справядлівасці.*

*Дбаючы аб паляпшэнні работы школы, я і вырашыў напісаць у нашу газету, пачуць голас радавых педагогаў, метадыстаў і вучоных нашай рэспублікі па пытаннях працэнтаманіі.*

*Няхай выкажуць свае адносіны да гэтай з'явы, параяць, што рабіць з такім злом, як яго перамагчы, як дабіцца высокай паспяховасці не толькі рэформамі, але і сваімі патрабаваннямі да вучняў, аб'ектыўнымі адносінамі да ацэнкі ведаў.*

**Пётр ПАДРЭЗЕНКА,**
**настаўнік-пенсіянер Баршчоўскай сярэдняй школы Рэчыцкага раёна.**

# ...і як яе перамагчы

*Са зместам пісьма, якое даслаў у рэдакцыю наш чытач Пётр Сямёнавіч Падрэзенка, мы пазнаёмілі і папрасілі пракаменціраваць яго начальніка Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі краіны М.С.Фяськова. Вось такой атрымалася наша з ім размова.*

**- Мікалай Сцяпанавіч, Вам не падаецца, што аўтар пісьма нагадаў нам пра справы даўно мінулых дзён? У тэксце ёсць такая думка: працэнтаманія - язва педпрацэсу. Гэтакі вядомы гучны савецкі лозунг-штамп! Аднак сёння аб працэнтаманіі ў школе мы амаль не гаворым, а калі і гаворым, дык вельмі мала, робім выгляд, што ў адукацыі яе ўвогуле не існуе. Хаця, па сутнасці, згадзіцеся, аўтар допісу ўзнімае вельмі актуальную сёння праблему - праблему якасці адукацыі.**

– Згодны з вамі. Аднак я цалкам не пагаджаюся з паважаным Пятром Сямёнавічам Падрэзенка, які чамусьці сцвярджае, што ў школе нічога не мяняецца, маўляў, як было трыццаць-сорак гадоў назад, так і засталося. Працэнтаманія пышна цвіце. Па-першае, паважаны Пётр Сямёнавіч ужо даўно ў школе не працуе, а значыць, не ўсё ведае. На самай жа справе ў сістэме адукацыі толькі за апошняе дзесяцігоддзе адбыліся змены, прычым кардынальнага характару. Я аўтарытэтна і катэгарычна заяўляю, што ў адрозненне ад нарматыўна-прававых дакументаў, якія існавалі ў савецкай школе і на самай справе, як піша аўтар пісьма, прадугледжвалі строгую справаздачнасць па паспяховасці, сёння ніводны нарматыўна-прававы дакумент гэтага не прадугледжвае. Я маю на ўвазе вертыкальную справаздачнасць, пачынаючы ад звычайнай агульнаадукацыйнай школы і заканчваючы Міністэрствам адукацыі. Вось такая справаздачнасць, і як вынік гэтага – стымуляванне альбо пакаранне і параджала ў тыя часы такую хваробу як працэнтаманія.

Аднак згодны, што ў даным выпадку на праблему трэба глянуць шырэй: праблема якасці адукацыі існавала і раней, у часы, калі яшчэ працаваў Пётр Сямёнавіч, і, вядома, існуе і сёння. Але той фармальны падыход, які быў у савецкай школе, зжыў сябе – калі падлічвалі выдатныя і нездавальняючыя адзнакі, а таксама вучняў, якія заставаліся на другі год, каб прайсці паўторны курс навучання. Прывяду яскравы прыклад такога фармальнага падыходу ў той перыяд. Хто ў тыя часы працаваў – мяне аспрэчваць не стане. Калі вучань атрымліваў некалькі нездавальняючых адзнак, яму прадстаяла работа на лета. Хаця ўсім – і дырэктару, і настаўніку, і самому вучню, і яго бацькам – было зразумела, што ўсё гэта фармальна. Настаўнік рабіў выгляд, што працуе з вучнем, а вучань рабіў выгляд, што нешта робіць. Як і належыць, складаўся індывідуальны план. А прыходзіла 25 жніўня, дзень заліку, і зноў усё ішло па знаёмай схеме: настаўнік рабіў выгляд, што прымае залік, а вучань – што здае яго. Хаця ў яго галаве ведаў за лета засталося значна меней. Затым усю гэтую працэдуру афармлялі пратаколам педсавета. Зноў-такі – чыста фармальна. Затым дырэктар школы загадам пераводзіў Пятра Іванова з пятага ў шосты клас. А што на справе? На справе нічога не змянілася! Але ў гэтым выпадку я не бачу віны настаўніка. Такой была сістэма, у якую ён быў уключаны, у якой жылі мы ўсе. І калі паўставала пытанне – ставіць "2" ці "3" – ён безумоўна ставіў вучню тройку, каб забяспечыць той самы славуты працэнт паспяховасці.

Аднак жыццё сёння патрабуе іншых крытэрыяў.

Сёння мы ўлічваем галоўнае: тое, што ўсе мы розныя. І нашы дзеці – таксама. І не ўсе яны могуць з улікам сваіх магчымасцей і здольнасцей аднолькава выдатна засвоіць веды, у тым ліку і самага высокага адукацыйнага стандарту. Я маю на ўвазе дыферэнцыяцыю навучання.

**- Такім чынам, Вы лічыце, што сёння ў школе фармалізму стала меней, таму і працэнтаманіі няма. Аднак калі бываеш у школах, вельмі часта чуеш ад настаўнікаў і кіраўнікоў навучальных устаноў: "Стаміліся ад праверак!"**

– Прызнаюся, некаторыя рэчы мяне таксама здзіўляюць. У Акадэміі паслядыпломнай адукацыі я часта сустракаюся з кіраўнікамі навучальных устаноў, дырэктарамі агульнаадукацыйных школ, ад якіх часта чую скаргі, маўляў, "ад нас патрабуюць справаздач!" Але гэта, паверце, ужо



самадзейнасць і навацыі аддзелаў адукацыі, тых кіраўнікоў, якія працягваюць практыку былых гадоў. Сацыялістычнае спаборніцтва, шматлікія рэйтынгавыя мерапрыемствы яны праводзяць, каб ранжыраваць школы. Безумоўна, вельмі многае залежыць ад стылю кіравання.

**- Мікалай Сцяпанавіч, Вы ж таксама пачыналі сваю прафесійную дзейнасць у тыя часы? Калі шчыра, адчулі на сабе ціск працэнтаманіі?**

– Прызнаюся, на мяне яна моцна не ціснула. Я прайшоў усе прыступкі: ад радавога настаўніка, да дырэктара школы. Мабыць, гэта яшчэ залежыць і ад таго, хто дзе працаваў, якія людзі былі побач. Я вось думаю: калі пагледзець з аднаго боку, інспектар аддзела адукацыі быў вымушаны патрабаваць справаздачнасці, гэта былі яго прамыя функцыянальныя абавязкі, выконваць якія яго вымушала тагачасная сістэма. А з другога боку, – заўсёды вельмі многае залежыць ад самога настаўніка. Творчы настаўнік і тады знаходзіў магчымасць дыферэнцыраваць працэс навучання. Складаныя заданні атрымлівалі моцныя вучні, а слабейшыя – больш лёгкія. Пры гэтым праца і вучоба прыносілі задавальненне і вучням, і настаўніку. Гэта ўжо сёння мы гаворым пра тры ўзроўні навучання ў школе: агульнаадукацыйны, павышаны і паглыблены. Раней жа гэтага не было!

Адчуваецца прафесійны ўзровень аўтара пісьма, тое, што ён працаваў у школе з захапленнем і аддачай, быў, як сам гэта падкрэслівае, патрабавальным і строгім як да вучняў, так і да сябе, даваў ім глыбокія веды. Аднак у лідэрах, перадавіках сацыялістычнага спаборніцтва ён ніколі не быў, бо не меў стопрацэнтнай паспяховасці.

**- Пэўна, Пётр Сямёнавіч быў з ліку тых настаўнікаў, якім сумленне, прафесійны гонар і этыка не дазвалялі ставіць вучню незаслужаную адзнаку.**

– Безумоўна. Але калі б гэты чалавек працаваў у школе сёння, яму было б значна лягчэй, ён пазбегнуў бы многіх праблем і складанасцей. Бо сёння – сродкі навучання, той інструментарый, якім карыстаецца настаўнік, іншыя. Скажам, сістэма ацэнкі ведаў вучняў. Старая, чатырохбальная, не дазваляла настаўніку ў поўнай меры дыферэнцыраваць веды вучня з`улікам яго здольнасцей і магчымасцей. Новая, дзесяцібальная, сістэма гэта прадугледжвае. Прычым, галоўнае ў ёй – адсутнасць нездавальняючай адзнакі. Яна стымулюе моцнага вучня і заахвочвае слабага. Напрыклад, раней у любым выпадку, калі школьнік дапусціў, скажам, у дыктоўцы па рускай ці беларускай мове сем памылак, настаўнік ставіў яму двойку. Хаця мы добра ведаем, што да моў не ўсе здольныя. Як правіла, выдатныя фізікі і матэматыкі маюць праблемы з граматыкай.

Увогуле я лічу, што ў тых умовах, у якіх сёння працуе настаўнік – я маю на ўвазе нізкі ўзровень фінансавання, адсутнасць некаторых сучасных сродкаў навучання і магчымасці выкарыстання камп'ютэрнай тэхналогіі, – ён мае даволі добрыя вынікі. Яскравы паказчык якасці працы – раённыя, рэспубліканскія і міжнародныя алімпіяды.

**- Многія лічаць, што ў алімпіядным руху крыюцца паказуха і фармалізм як прыхаваная форма працэнтаманіі.**

– Я б так не гаварыў. Хаця я згодны з вамі ў тым, што ўдзел маладога чалавека ў алімпіядзе – гэта яшчэ не заўсёды паказчык творчага пачатку асобы будучага спецыяліста. І не заўсёды ўдзельнікі алімпіяд і медалісты становяцца вядомымі вучонымі. Будучыя выдатныя фізікі, хімікі і матэматыкі звычайна заяўляюць пра сябе на школьных навукова-практычных канферэнцыях. Гэта калі вучань зацікаўлена працуе над канкрэтнай тэмай, у якую паступова паглыбляецца, а любімы прадмет з цягам часу становіцца яго прафесіяй і справай усяго жыцця. Вось менавіта яны робяць пазней навуковыя адкрыцці.

Хачу падкрэсліць адну асаблівасць. Мы чамусьці памылкова вызначаем талент па тым, ці ёсць у чалавека здольнасці да матэматыкі, фізікі ці хіміі. А між іншым, жыццё сведчыць пра іншае. Многія з нас бачылі надрукаваны ў адной з цэнтральных газет атэстат за сем класаў аднаго з былых прэм'ераў Расіі. Адны тройкі. Адчуваю, што за многімі з іх стаялі двоечкі. Аднак сёння ён – відны дзяржаўны дзеяч, доўгі час узначальваў міністэрства. Хаця, як бачым, у школе асаблівых здольнасцей да агульнаадукацыйных прадметаў ён не меў.

Чаму я прывёў гэты прыклад? Я пра тое, што кожны чалавек – таленавіты. Задача – раскрыць: у чым? Іншы падлетак яшчэ не ведае пра паралельнае і паслядоўнае злучэнне паўправаднікоў і чаму раўняецца сіла току і напружанне пры ім, а ўжо можа адрамантаваць прас ці выправіць выключальнік. Для такіх вучняў у агульнаадукацыйных школах адкрываюць профільныя класы тэхналагічнага ўхілу. Сёння мы даём магчымасць кожнаму вучню знайсці сябе, рэалізаваць у вучобе.

**- Я вось падумала пра тое, што той расійскі прэм'ер, пра атэстат якога вы нагадалі, калі б вучыўся ў школе сёння, пэўна, быў бы вучнем звычайнага агульнаадукацыйнага класа? Вось адкуль выходзяць менеджэры і дзяржаўныя дзеячы. Жартую, вядома.**

– Магчыма, вы маеце рацыю. Талент кіраваць – гэта асобная навука, галіна ведаў, сфера чалавечай дзейнасці, да якой, як і да любой іншай, трэба мець здольнасці, як кажуць, дар Божы!

Хачу некалькі слоў дадаць пра алімпіяды. На жаль, сёння паўстала пытанне – ці трэба праводзіць рэспубліканскія і міжнародныя алімпіяды? У бюджэце не былі закладзены сродкі на іх правядзенне. Міністэрства грошы шукае. Але ў сувязі з гэтым мы вымушаны былі скараціць колькасць удзельнікаў алімпіяд з абласцей, што, адпаведна, выклікае негатыўную рэакцыю на месцах. І добра разумеем, чаму такое абурэнне: пераможцы алімпіяд маюць льготы на паступленне ў вышэйшую навучальную ўстанову. А колькасць удзельнікаў алімпіяд той ці іншай навучальнай установы – адзін з паказчыкаў якасці адукацыі. А што датычыцца гэтых паказчыкаў, дык сярод іх ёсць нават такія, як удзел вучняў у навуковых гуртках, наяўнасць і колькасць у школе профільных класаў і нават настаўнікаў з вышэйшай катэгорыяй. Хаця, на мой погляд, апошняе не заўсёды гарантуе высокі ўзровень падрыхтоўкі і ведаў вучняў.

**- Мікалай Сцяпанавіч, як Вы лічыце, структура, на якую ўскладзены функцыі кантролю за якасцю адукацыі, сёння працуе эфектыўна?**

– Раней гэтым займалася дзяржінспекцыя, якая сёння перайменавана ў дэпартамент кантролю якасці ведаў і знаходзіцца ў стадыі рэструктурызацыі. Дарэчы, я хачу прапанаваць новаму кіраўніцтву перагледзець функцыі дэпартамента. Раней дзяржаўная інспекцыя займалася толькі атэстацыяй і акрэдытацыяй. І ў асноўным гэта былі гімназіі. Звычайныя агульнаадукацыйныя школы фактычна выпадалі з поля зроку. У абласных упраўленнях адукацыі інспекцыі не было. Кантроль – гэта не толькі сродак псіхалагічнага ціску на настаўніка. Кантралюючыя структуры патрэбны нам для таго, каб мець матэрыял для аналізу падручнікаў альбо зместу адукацыі, каб мы маглі своечасова ўносіць адпаведныя карэктывы і неабходныя змены ў працэс навучання.

**- Аднак, Мікалай Сцяпанавіч, вернемся да працэнтаманіі. Як жа змагацца супраць яе? Што рабіць, каб выкараніць яе са школы, дзе яна яшчэ ёсць?**

– Вяртацца да яе нам не трэба. Адзіная зброя, лічу, супраць яе – гэта праца. Творчасць настаўніка. Не працэнты павінны хваляваць яго і нас усіх, а вучань і яго лёс.

**Гутарку вяла Святлана БЕНЬ.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**



Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

# Здаровае дзіця ці хворы выдатнік?
## Выбіраем першае...

***Мы параўноўваем сваіх дзяцей з кветкамі, бо кветкі - сімвал стваральнага жыцця, прыгажосці і вечнасці на зямлі. Але, здаецца, мы забываем простую ісціну, што калі ў кветачку пераліць вады (усё роўна як і не даліць), вынік можа быць адзін - непажаданы. Працэс навучання павінен грунтавацца на прынцыпе "Не нашкодзь дзіцяці". Пакуль мы яму толькі шкодзім. Вучоба і стан здароўя нашых дзяцей знаходзяцца ў няпростай залежнасці. Статыстыка, на жаль, сёння нас не радуе. Хворых дзяцей болей. Аднак толькі здаровае дзіця ў стане засвоіць той аб'ём ведаў, інфармацыі, які яму прапануе школа.***

Але, з другога боку, школьнік, які добра засвоіў вучэбны матэрыял і быў узнагароджаны за гэта высокай адзнакай, атрымлівае вялікі станоўчы эмацыянальны зарад, а для стану здароўя гэта не менш важна, чым паўнацэннае, збалансаванае харчаванне. Маецца на ўвазе духоўнае, маральнае "харчаванне" дзяцей, якое яны атрымліваюць, наведваючы школу. Такім чынам, паўстае праблема, як не "перакарміць" нашых дзяцей разнастайнай інфармацыяй. І пры гэтым ёсць небяспека недадаць галоўнага!

Узнікае пытанне: што выкладаць у школе і як? У распрацоўцы школьных праграм павінны прымаць актыўны ўдзел у тым ліку і высокакваліфікаваныя спецыялісты: фізіёлагі, псіхолагі і медыкі.

У профільных класах нашых школ нярэдка вучаць па максімуме (гэта датычыць аб'ёму матэрыялу) па ўсіх прадметах, якія выкладаюцца. Такая нагрузка, на маю думку, неапраўданая. Яна прыводзіць да launhраtomлenasці дзяцей, што ў выніку адбіваецца на якасці ведаў, уплывае на здароўе.

Важна, каб веды нашых дзяцей былі сістэматызаванымі, упарадкаванымі. Не павінна быць інфармацыйнага хаосу. Таму акцэнт у выкладанні неабходна рабіць на развіцці ўмення здабываць веды самастойна. Трэба развіваць разумовыя здольнасці школьнікаў, раскрываць іх творчы патэнцыял. Зразумела, што зуброжкі ў школе не павінна быць, матэрыял будзе лепш засвойвацца, калі ён успрымаецца асэнсавана.

Настаўнік мусіць арыентавацца на рэакцыю вучняў, якая падкажа яму, як яны зразумелі тэму, ці звярнулі ўвагу на галоўныя аспекты. Інакш бацькам давядзецца часам выконваць дома работу школьнага педагога. Часта справа нават не ў няўседлівасці дзяцей – проста ў настаўніка няма часу зважаць на такую "драбніцу", як засваенне дзецьмі матэрыялу на ўроку. Галоўнае – тэма пададдзена ў вызначаным метадыкай аб'ёме і своечасова.

А калі вучні гавораць, што яны нешта не зразумелі, настаўнік адказвае: "Ну, я ўжо і не ведаю, як вам яшчэ тлумачыць..." І ўсё. Што за гэтым? Прабелы ў ведах. З эпізадычных яны ператвараюцца ў глыбу невядомага. І ў выніку – "вашаму дзіцяці патрэбны рэпетытар". Гэта азначае, што бацькі павінны плаціць з уласнай кішэні. А чаму бацькі павінны плаціць за безадказнасць, і непрафесійнасць педагога?

Няхай праграма будзе больш кароткай – дзеці павінны атрымаць толькі азы з розных галін ведаў. Але галоўнае ў тым, каб усё зразумелі, успрынялі – і навучыліся арыентавацца ў патоку інфармацыі.

Вядома, існуе праблема адпаведнасці аб'ёму і зместу праграмы навучання ў школе. Адзін тата на бацькоўскім сходзе так і сказаў: "Я выбіраю здаровую дачку, якая не вельмі паспяхова засвоіла школьную праграму, а не хворую выдатніцу".

На якасць навучання ўплываюць і фактары псіхалагічнага характару.

Недапушчальна, каб вучань адчуваў сябе на ўроку "казлом адпушчэння" або ізгоем, на якога не звяртаюць аніякай увагі. Настаўнік – жывы чалавек, з эмоцыямі, але зрываць свой гнеў на школьніках ён не павінен і не павінен ставіць відавочна заніжаную адзнаку. Такія і падобныя ім з'явы прыўносяць у працэс навучання нестабільнасць, хаатычнасць, а ў дзяцей выклікаюць нежаданне вучыцца, прыводзяць да ўзнікнення пачуцця няўпэўненасці ў сабе.

Важным момантам у фарміраванні станоўчай матывацыі да навучання з'яўляецца аб'ектыўная ацэнка працы вучняў. Яны не заўсёды ведаюць крытэрыі выстаўлення адзнак за адказы (пісьмовыя, вусныя, тэсты). І не заўсёды разумеюць, за што зніжана адзнака, гэтак жа як і пастаўлена станоўчая. Вучань мае права на памылку. Галоўнае, каб ён разумеў – у чым яна і як ён павінен яе выправіць, каб не паўтарыць у далейшым.

А хіба не вядомы выпадкі, калі за аднолькавыя памылкі ў адказах розным вучням ставяцца розныя адзнакі, гэта значыць ацэньваецца не адказ, а канкрэтны чалавек? Таму не дзіўна, што ў школьнікаў паступова затухае жаданне вучыцца. Бацькоўскія заклікі пры гэтым адыгрываюць слабую ролю, бо дзеці знаходзяцца ў канкрэтным асяроддзі, якое перастае для іх быць прывабным. Наўрад ці ўзнікнуць ў каго сумненні наконт таго, што ў падобных сітуацыях у вучняў будзе пагаршацца фізічнае і псіхалагічнае самаадчуванне. І хіба тут можна гаварыць пра якасць адукацыі?

І яшчэ да пытання перагрузак у школе. Ці ёсць сэнс перагружаць дзяцей дамашнімі заданнямі на адзіны выхадны дзень, калі яны добра засвойваюць матэрыял на ўроку, а дома ім застаецца толькі паўтарыць, замацаваць тое, што яны засвоілі ў школе? Цудоўна, калі, атрымаўшы на ўроках асноўную інфармацыю, дзеці стараюцца самастойна знайсці дадатковы матэрыял. Але гэта залежыць ад якасці працы настаўніка. Перакананa ў гэтым.

Для школьнікаў павінны быць створаны аднолькавыя ўмовы, каб была магчымасць спаборнічаць, а сапраўды лепшыя вучні атрымлівалі заслужанае "золата". Залаты медаль даецца за працу, стараннасць, арганізаванасць, мэтанакіраванасць, творчасць, маральную чысціню і вышыню жыццёвых памкненняў.

Дарэчы, ці трэба ў 8-м класе па інфарматыцы адразу даваць схемы, складаныя для ўспрымання, і ўвогуле ці патрэбна інфарматыка ў першы год навучання на ўзроўні праграміравання? Магчыма, дастаткова, каб гэты прадмет спачатку выкладаўся на ўзроўні карыстальнікаў камп'ютэрам?

На маю думку, не маюць падставы настаўнікі спасылацца на тую акалічнасць, што бацькі зашмат хочуць ад іх. Маўляў, таленавітых педагогаў нямнога.

**Вера ТРАФІМЕЦ,**
**сацыёлаг.**

Званок з рэдакцыі

# Працэнты даўно не лічым?!.

## Ці існуе сёння ў школе працэнтаманія? На гэтае пытанне нам адказалі...

**Таццяна Іванаўна Петруковіч, загадчыца вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі Кобрынскага гарвыканкама:**

Адназначна на гэтае пытанне адказаць не магу. Мабыць, дзе-нідзе працэнтаманія мае месца. Але, магчыма, гэта там, дзе працуюць "старыя кадры сярод кіраўнікоў", якія і тармозяць рух новых ідэй і навацый у школу. Гэта ім і патрэбны працэнты. Працэс перабудовы – складаны працэс. Але што датычыцца нашага раёна, дык наадварот, мы ўжо даўно працэнты не лічым. Школа паступова пераходзіць на навуковую маніторынгавую аснову. Нашы настаўнікі працуюць па новых адукацыйных тэхналогіях, вывучаюць і ўкараняюць цікавы вопыт. Мы робім стаўку на развіццё асобы дзіцяці. Інакш сёння нельга. Жыццё патрабуе ад нас пераасэнсавання многіх крытэрыяў і каштоўнасцей.

**Вольга Васільеўна Клачкова, дырэктар 130-й гімназіі Мінска:**

У мяне ўжо багаты педагагічны стаж. І я памятаю, як толькі прыйшла працаваць у школу, як мы ўсе баяліся за двойкі, бо за іх нас, вядома, не заахвочвалі. А наадварот – каралі. Я вось цяпер думаю: быццам бы настаўнік быў вінаваты за тое, што канкрэтнаму беднаму вучню не давалася вучоба, у школе ён пакутаваў ад гэтых нездавальняючых адзнак – двоек і троек. Меў месца неверагодны псіхалагічны ціск як на вучня, так і на настаўніка. Цяпер у нас ёсць выйсце – ратуе дыферэнцыраваны падыход да навучання, у школе працуюць кваліфікаваныя псіхолагі. Так, мы кантралюем вучэбны працэс. Але гэта ўжо зусім іншы кантроль: удасканалены, пастаўлены на навуковую аснову. І дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў вучняў таксама, перакананa, паменшыць колькасць праблем у школьным жыцці.

**Намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце навучальнай установы новага тыпу (Мінск):**

Працэнтаманія была, ёсць і будзе. Той, хто сцвярджае, што яе няма, проста крывадушнічае. І не болей! Якое глупства і ханжаства! Няма слоў! Працэнтаманія будзе жыць, пакуль мы будзем ад вышэйстаячых кіраўнікоў атрымліваць вялізны вал часам зусім не патрэбных папер, ад якіх разбягаюцца вочы. Няпраўда! Справаздачы ад нас патрабуюць! Здараецца, ад папер і справаздач няма часу займацца прамымі функцыянальнымі абавязкамі, працаваць з вучнем. Трэба каб у школу прыходзіў строга вызначаны пералік дакументаў, а не вал іх. Прозвішча маё, вельмі прашу, не пішыце, інакш у мяне будуць праблемы.

# Без прыгожых справаздач

***Валерый Сцяпанавіч Аўсяннікаў - дырэктар дэпартамента кантролю якасці адукацыі. На гэтай пасадзе параўнальна нядаўна, з 1 лютага. Мае багаты вопыт выкладчыцкай дзейнасці. Тэма якасці адукацыі - яго тэма. Мы і яму задалі пытанне аб працэнтаманіі. Яго думкі прапануем вашай увазе.***

Міністэрства адукацыі пераглядае свае структуры і функцыянальныя абавязкі. У гэтым кантэксце і мы вызначаем сваё месца, думаем і працуем над зmяненнем функцый кожнага інспектара і дэпартамента ў цэлым.

Шукаем новыя падыходы. Бо сёння многія крытэрыі і паказчыкі ўжо не спрацоўваюць. Жыццё патрабуе навацый.

У падпарадкаванні нашага ведамства – уся нацыянальная сістэма адукацыі, у тым ліку перападрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі кадраў, усе навучальныя ўстановы, незалежна ад падначаленасці і форм уласнасці: і прыватныя, і дзяржаўныя. Вядома, нам не адысці ад былой практыкі. Мы рабілі і будзем рабіць комплексныя праверкі, калі пад яе падпадае цэлы раён, куды ўваходзяць усе навучальныя ўстановы. Мы рабілі зрэз ведаў, высвятлялі стан навучальна-тэхнічнай базы, ведалі, у якой школе працякае дах і г.д. Словам, параметры якасці адукацыі разглядаліся ва ўсіх аспектах.

Аднак сёння мы хочам кантралюючыя і інспектуючыя функцыі ўскласці ў тым ліку і на абласныя ўпраўленні адукацыі. Пакуль яны гэтым не займаюцца. Некалі ж пры абласных упраўленнях інспекцыі кантролю існавалі. Толькі Мінскае гарадское ўпраўленне адукацыі захавала сваю інспекцыю. Усе астатнія на інспектараў усклалі функцыі арганізатараў навучальнага працэсу. І зразумела, што вось тут кантралюючыя функцыі і "выпадаюць". Мы ж хочам зноў вярнуць іх на ўзровень вобласці і раёна. Унутрышкольны кантроль павінен здзяйсняць дырэктар школы.

Наш дэпартамент, лічу, павінен існаваць не толькі для таго, каб праз пэўныя зрэзы вызначаць узровень ведаў школьнікаў у нейкім раёне і канкрэтнай школе, а для таго, каб вызначаць узровень кіравання адукацыі ў раёне, вобласці, краіне. Вось што мы хочам зрабіць – мы будзем займацца маніторынгам якасці адукацыі! І рабіць гэта будзем якасна. Так, нам нікуды не дзецца ад атэстацыі і акрэдытацыі навучальных устаноў, а таксама ад скаргаў.

Працэнтаманія!? Існуе, безумоўна! І не трэба хлусіць і крывадушнічаць, хаваць галаву ў пясок... Мы ж інтуітыўна адчуваем і разумеем, што сёння, на вялікі жаль, ідзе працэс дэградацыі школы. Выпускнікі-медалісты атрымліваюць двойкі па профільных прадметах на ўступных экзаменах у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Каму патрэбны такія медалісты і пра што гэта гаворыць? А пра тое, што медаль страціў свой ранейшы бляск! Гэта важна! Гэта паказчык! Так, у школе сёння не ўсё добра!

Нам трэба падумаць пра новыя крытэрыі ацэнкі якасці адукацыі! На жаль, яны ў нас яшчэ не выпрацаваны. Возьмем кадры! Скажам, калі тая ці іншая навучальная ўстанова ўкамплектавана кадрамі, мы лічым, што гэта добры паказчык. Але ж якія гэта кадры? Які іх прафесійны ўзровень?.. Так, педагогу сёння складана працаваць. Нашы дзеці сталі іншымі. У грамадстве адбываюцца працэсы, асэнсаваць якія не кожны настаўнік у стане. А дзеці здольныя на гэта. Настаўнік адстае, патрабуе ведаць азы зазубрываннем, а не разумення і асэнсавання працэсу.

Гэта, на жаль, адбываецца і ў вышэйшай школе, калі выкладчык не паспявае за хадой часу і не валодае тымі сучаснымі ведамі па свайму курсу, якія існуюць у свеце. Часам студэнты на галаву вышэй за выкладчыкаў. Яны маюць доступ у Інтэрнет, чаго не мае іншы выкладчык, які звычайна патрабуе люстэркавага адлюстравання свайго курса лекцый, а не шырыні кругагляду і эрудыцыі. А значыць, такі педагог – чалавек учарашняга дня. Нам жа сёння неабходны людзі, здольныя ўліцца ў дзень заўтрашні. Бо як нам ні цяжка, але наша краіна і мы ідзём у сусветную эканоміку, уступаем у сусветнагаспадарчыя сувязі.

Не сакрэт, што прафесарска-выкладчыцкі састаў, асабліва ў вышэйшай школе, старэе. Узрост яго набліжаецца да пенсійнага. Прафесар, бывае, не ідзе на пенсію да таго часу, пакуль рухаецца. Але даўно пайшлі на пенсію яго думкі і веды. І мы падкрэсліваем: у данай навучальнай установе працуе вось столькі і столькі прафесараў. І чым большая лічба – тым, быццам бы, лепей!

Але каму патрэбны гэтыя прыгожыя справаздачы. І хіба гэта не працэнтаманія? Я разумею, што кожны раз, рыхтуючыся да чарговай атэстацыі і акрэдытацыі, тая ці іншая навучальная ўстанова, у тым ліку і ВНУ, звычайна імкнуцца "шліфануць" сітуацыю. Але ж гэтая шліфоўка – на дзень. Мы ж ёю павінны займацца пастаянна.

Чаму маладыя людзі сёння не ідуць у аспірантуру? Калі ідуць, дык толькі тыя, хто хоча пазбегнуць арміі. Яны працуюць, пішуць дысертацыі, але праходзіць час, а дысертацыя не абараняецца. Чаму? Пэўна, прычына тут крыецца ў стымулах: як матэрыяльных, так і маральных. Раней кандыдат навук быў паважаным чалавекам. Сёння гэтыя стымулы ўжо не спрацоўваюць.

І яшчэ адзін прыклад. Бібліятэчны фонд – адзін з крытэрыяў і паказчык якасці любой навучальнай установы. Не важна, ВНУ гэта ці звычайная агульнаадукацыйная школа. Добры паказчык, але наколькі ён сёння спрацоўвае? Безумоўна, вельмі істотна, каб бібліятэка была ўкамплектавана добрай сучаснай літаратурай. Літаратуры многа, але ці запатрабавана яна сёння? Не сакрэт, што вялікая колькасць чытацкіх залаў пустуе. А значыць, гэтай літаратурай не карыстаюцца. Тым болей, што іншая кніга з моманту напісання і да моманту, калі з'явіцца на прылаўку магазіна ці ў бібліятэцы, практычна "старэе". Каму яна ўжо цікавая? Цікавей, лягчэй, даступней і актуальней сёння – Яго Вялікасць Інтэрнет.

**Падрыхтавала Святлана БЕНЬ.**

